№ 32 (3773)

23 красавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Не спазніцеся!

***Нагадваем: тыя чытачы "Народнай Волі", якім трэба прадоўжыць падпіску на май, могуць зрабіць гэта да 28 красавіка. Вас чакаюць на пошце і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".***
***Будзем разам!***

З НАГОДЫ

# Стоп-МАЗ




*Расійскі бок пакуль ніяк не пракаментаваў вестку аб зрыве праекта, пра які Уладзімір Пуцін яшчэ два гады таму падчас візіту ў Мінск паведаміў: "Мы дамовіліся".*

Нагадаем, што ў пятніцу, выступаючы з пасланнем на Нацыянальнага сходу і беларускага народа, Аляксандр Лукашэнка заявіў пра адмову ад праекта па аб'яднанні МАЗа і КамАЗа.

Вось цытата з паслання.

*"Калі да мяне прыходзяць людзі, я ў іх пытаюся: "Што мы атрымаем ад гэтага аб'яднання, акцыянавання? Што мы атрымаем?" Рынкі ў нас ёсць, яны агульныя. І мы не саступаем па якасці і па цане прадукцыі, якую выпускае сёння будучы, так бы мовіць, акцыянер. Не, у нас не горшыя МАЗы, чым КамАЗы ці нейкія іншыя. Рынак вядомы. У нас ёсць праграма мадэрнізацыі на МАЗе. Я пытаюся: "Колькі вы ўкладзяце ў мадэрнізацыю МАЗа, калі вы сюды прыйшлі?" — "Грошай няма". Паўстае пытанне: дык што мы хочам гэтым паказаць, чаго дасягнуць? І мяне ўжо пачынаюць інфармаваць: ды за імі стаяць замежнікі з Германіі, Амерыкі. Яны з'яўляюцца там акцыянерамі, і яны проста будуць зацікаўлены, каб тут МАЗ апусціць, закрыць. Бо не патрэбны канкурэнт. Ну, будзе наш МАЗ нейкую паўвось выпускаць ці кабіну будуць варыць ўручную — і годзе. А чаго беларусам? Ім шмат не трэба, яны ж не немцы!.. Дарагія мае, я — прэзідэнт краіны. Я — прэзідэнт Беларусі. Мяне беларускі народ абраў, і я на гэтую акцыю, бандыцкую акцыю, інакш не назавеш, не пайду!"*

Цікава, што не толькі Уладзімір Пуцін, але і сам Аляксандр Лукашэнка пра праект аб'яднання МАЗа і КамАЗа гаварыў: "Дамовіліся!" І вось такі нечаканы паварот і словы пра бандыцкую акцыю...

На ўчарашні дзень афіцыйнай рэакцыі Масквы пакуль не было. Але некаторыя расійскія СМІ далі знак, што незаўважанай адмова Аляксандра Лукашэнкі ад аднаго з асноўных расійска-беларускіх прыватызацыйных праектаў не застанецца.

Так, газета **"Известия"** недвухсэнсоўна паведаміла, што "нафтавае перамір'е" паміж Расіяй і Беларуссю падыходзіць да канца. Менавіта так, па звестках газеты, расійскі ўрад будзе дамагацца паскарэння працы па стварэнні сумесных праектаў з Беларуссю. Як высветлілі **"Ведомости",** ужо падрыхтаваны ліст беларускаму боку пра нежаданне ўзгадняць павелічэнне паставак нафты на беларускія НПЗ у III і IV кварталах 2013 года.

Такім чынам, схема зразумелая: не будзе прыватызацыі — не будзе дадатковай нафты. Не будзе нафты — не будзе дадатковых грошай ад нафтаперапрацоўкі, ад якіх цалкам залежыць беларускі бюджэт. Зразумела, што і міжурадавых крэдытаў пад нізкія працэнты не будзе. Прасцей кажучы, гэта і ёсць сапраўдны шантаж.

Прычым у дадзеным выпадку цяжка не падтрымаць Аляксандра Лукашэнку, бо, сапраўды, што гэта за "выгадная прапанова", калі адно з асноўных прадпрыемстваў краіны — Мінскі аўтамабільны завод — мы павінны аддаць камусьці нават не за грошы, а за акцыі.

Але менавіта Аляксандра Лукашэнку трэба абвінавачваць у тым, што іншы раз налева-направа раздае рызыкоўныя і нават авантурныя абяцанні. А потым не ведае, як з гэтай сітуацыі выслізнуць. Што ж тычыцца МАЗа, то ці здолеем выкарабкацца — гэта яшчэ вялікае пытанне.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### ДАРЭЧЫ

Няпростая сітуацыя, у якой апынуўся МАЗ з-за рэзкага падзення попыту на прадукцыю прадпрыемства, можа яшчэ больш пагоршыцца. Расія падрыхтавала прапанову аб увядзенні ў межах Мытнага саюза так званага ўтылізацыйнага збору для аўтавытворцаў. Калі гэты збор будзе ўведзены, то кошты МАЗаў павялічацца на 7—14 тысяч долараў.

Такую выснову зрабілі аналітыкі агенцтва **"Бізнес-Навіны",** прааналізаваўшы праект дакумента, падрыхтаванага расійскім бокам. Павелічэнне коштаў будзе азначаць рэзкае падзенне попыту на МАЗы на расійскім і казахстанскім рынках.

## Да 25 градусаў цяпла!

*Цёплае надвор'е сіноптыкі абяцаюць да канца тыдня.*

У сераду, ***24 красавіка,*** ноччу месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, затое днём ападкаў практычна не чакаецца. У гэты дзень у асобных раёнах краіны ўзмоцніцца вецер, парывы якога дасягнуць 15—18 метраў у секунду. Тэмпература паветра ўначы будзе складвацца ў дыяпазоне ад 3 да 9 градусаў са знакам плюс, днём прагназуецца 10—16 градусаў вышэй за нуль, толькі ў Брэсцкай вобласці паветра прагрэецца да 18 градусаў.

У чацвер, ***25 красавіка***, пераважна па паўночнай палове краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, у дзённыя гадзіны ў асобных раёнах краіны прагрымяць навальніцы. Месцамі прагназуецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15—20 метраў у секунду. Тэмпература паветра ўначы будзе плюс 3—8 градусаў, днём 11—17 градусаў са знакам плюс, па поўдні — да 20 градусаў вышэй за нуль.

У пятніцу, ***26 красавіка***, у асобных раёнах краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай месцамі згусціцца слабы туман. Тэмпература паветра ноччу прагназуецца ад мінус 3 да плюс 3 градусаў, днём будзе 11—17 градусаў вышэй за нуль, цяплей будзе толькі ў паўднёва-заходніх раёнах, дзе паветра прагрэецца ўначы да 1—6 градусаў, днём да 18—22 градусаў цяпла.

*"У выхадныя з Міжземнага мора ў Беларусь пачнуць паступаць больш цёплыя, але пры гэтым больш вільготныя паветраныя масы",* — адзначыў **Дзмітрый Рабаў.**

У суботу, ***27 красавіка***, ноччу месцамі, а днём на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы. У дзённыя гадзіны ў асобных раёнах краіны прагназуюцца навальніцы. Тэмпература паветра ўначы будзе 3—9 градусаў вышэй за нуль, днём — 14—20 градусаў, цяплей будзе толькі па паўднёвым захадзе краіны, дзе ноччу паветра прагрэецца да 10—15 градусаў, днём там чакаецца ад 21 да 25 градусаў вышэй за нуль.

У нядзелю, ***29 красавіка***, на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі прагрымяць навальніцы. Тэмпература ноччу прагназуецца ў межах плюс 6—12 градусаў, днём будзе ад 10 градусаў па паўночным захадзе да 23 градусаў цяпла па паўднёвым усходзе краіны.

АНОНС

# Хутка птушкі запяюць усюды...

*На здымку — заслужаны артыст Беларусі **Віктар Скарабагатаў**. Вядомы многім і многім прыхільнікам мастацтва, гэты таленавіты творца, які шмат гадоў прысвяціў натхнёнай і апантанай працы дзеля адраджэння скарбаў нацыянальнай культуры, нядаўна разам з сябрамі-аднадумцамі падараваў слухачам незабыўную музычна-паэтычную праграму ў гонар і памяць герояў Паўстання 1863—1864 гадоў.*



***Матэрыял пад назвай "Хутка птушкі запяюць усюды..." чытайце на 6-й старонцы.***

ДАЎНО ПАРА!

## За раскідванне смецця ў грамадскіх месцах — штраф

Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька даручыў разгледзець магчымасць увядзення ў Мінску штрафу за раскідванне смецця ў грамадскіх месцах. Пра гэта ён заявіў учора на аператыўнай нарадзе: "*Аддзел гарадской гаспадаркі гарвыканкама як органа структуры сістэмы дзяржкіравання павінен ініцыяваць адпаведную прапанову і ўнесці на разгляд дэпутатам*".

Намеснік начальніка аддзела гарадской гаспадаркі **Анатоль Дасюкоў** выказаў упэўненасць у тым, што ў Мінску ўжо наспела неабходнасць прыняцця мер адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне жыхарамі санітарнага стану тэрыторыі горада.

*"Хуткае раставанне снегу прадэманстравала вялікую колькасць смецця, пакінутага жыхарамі Мінска гэтай зімой, асабліва на прылеглых да жылых дамоў тэрыторыях. Увядзенне штрафу дазволіць выхаваць у людзях адказнасць і павагу да працы камунальнікаў"*, — сказаў ён.

Анатоль Дасюкоў таксама падкрэсліў, што ў Мінску могуць аштрафаваць за выкідванне смецця з вокнаў аўтамабіляў на суму ад 1 да 2 базавых велічынь, аднак гэтая мера адміністрацыйнага ўздзеяння практычна не ўжываецца.

У Чэхіі штраф за раскідванне смецця складае 50 еўра, у Вялікабрытаніі — 57 еўра, у Іспаніі — 90 еўра, у Швецыі — 170 еўра, у Сінгапуры — 500 еўра. Парушальнікамі правіл санітарнага стану ў гэтых краінах з'яўляюцца ў асноўным турысты, бо ў саміх жыхароў у асноўным сфарміравана культура паводзін.

КАДРЫ

## Новым міністрам энергетыкі стаў Уладзімір Патупчык, а гендырэктарам «Белэнерга» — Яўген Воранаў

А.Лукашэнка таксама даў згоду на прызначэнне **Яўгена Воранава** генеральным дырэктарам дзяржаўнага вытворчага аб'яднання электраэнергетыкі "Белэнерга". І прызначыў амбасадара Беларусі ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах — ім стаў **Раман Галоўчанка.**

Нагадаем, што адстаўкі ў энергетычнай галіне адбыліся на мінулым тыдні. Лукашэнка заявіў, што незадаволены працай энергетычнага комплексу, запатрабаваў дэталёва праверыць абгрунтаванасць фарміравання тарыфаў на цепла- і электраэнергію. *"Энергетыкі ў нас сфарміравалі "дзяржаву ў дзяржаве", з элементамі мафіі і банды",* — заявіў Лукашэнка.



**Уладзімір Патупчык.**



**Яўген Воранаў.**

Пасад *"за правалы ў кіраванні энергетычнай галіной"* пазбавіліся міністр энергетыкі **Аляксандр Азярэц**, ягоны намеснік **Эдуард Таўпянец** і гендырэктар "Белэнерга" **Аляксей Шырма**.

**Уладзімір Патупчык** — чыноўнік з багатым мінулым. Ён пачынаў кар'еру простым машыністам-абходчыкам турбіннага абсталявання Мазырскай ЦЭЦ Гомельскай вобласці — гэта было ў 1980—1981 гадах. У 1983 годзе працаваў намеснікам начальніка цэнтральнай службы раённага энергетычнага ўпраўлення "Гомельэнерга". У 1983—1984 гадах кіраваў лабараторыяй металаў Светлагорскай ЦЭЦ.

Каля трох гадоў узначальваў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, працаваў віцэ-прэм'ерам, старшынёй Федэрацыі лёгкай атлетыкі.

У 2007 годзе імя міністра працы згадвалі ў сувязі з ДТЗ са смяротным зыходам — пад коламі яго асабістага аўтамабіля загінуў чалавек. Жонка Патупчыка Алена стала адной з гераінь тэлепраекта Вікторыі Сянкевіч "Лёгка сказаць" — яна запрасіла журналістаў у дом і шчыра распавяла пра сваё жыццё-быццё.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

# Гісторыя з душком

*Тынкоўка яшчэ не высахла на фасадзе абноўленага Купалаўскага тэатра, а вакол установы распаўсюджваецца непрыемны пах. У літаральным сэнсе — ля будынка патыхае каналізацыяй...*

Сквер у самым цэнтры Мінска, які ў народзе жартаўліва ахрысцілі Панікоўкай, заўжды быў улюбёным месцам адпачынку мінчан і гасцей сталіцы — высокія дрэвы, утульныя дарожкі, лавачкі, фантан. Праўда, некалькі гадоў рэканструкцыя Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы, што стаіць у скверы, псавала ўражанне ад адпачынку на свежым паветры. Але, як толькі будаўнічыя рыштаванні знялі, людзі вярнуліся на аблюбаванае месца. Вось толькі сесці мінчане стараюцца як мага далей ад абноўленага тэатра. Нараканняў на адрэстаўраваны будынак няма, а вось на пах, што адчуваецца побач з ім, ёсць. Вакол культурнага ва ўсіх сэнсах будынка па раёне распаўсюджваецца зусім не культурны пах.




*"Гэтая праблема ўжо ўздымалася, калі адчынялі тэатр пасля рэканструкцыі,* — паведамілі "Народнай Волі" ў "Мінскводаканале". — *Мы папярэджвалі будаўнікоў, што могуць узнікнуць непрыемнасці. Справа ў тым, што побач з тэатрам размешчаны выцяжкі з метрапалітэна, у тым ліку і з тамтэйшай каналізацыі. Вось пах адтуль і ідзе. Праблему вырашыць можна, але гэтая тэрыторыя ўжо перайшла на баланс тэатра, і ўсімі пытаннямі мусіць займацца яго кіраўніцтва"*.

Аматараў паснедаць на свежым паветры ля Купалаўскага ў апошні час стала куды менш, чым можна было чакаць. Яно і зразумела — "камунальныя пахі" апетыт не паляпшаюць. А што ж будзе спякотным летам? Наўрад ці жыхарам суседніх з Купалаўскім дамоў патрэбны лішнія "прыемнасці".

А што ж самі купалаўцы? Як ім ствараць глыбокія вобразы, калі з вуліцы патыхае гнаявой "свежасцю"?

"*Аб сітуацыі з вентыляцыяй ведаюць усе — мы не аднойчы ўзнімалі гэтае пытанне,* — расказаў нашай газеце намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы **Іосіф Турко**. — *Спадзяёмся, што справа ў хуткім часе вырашыцца. Ад нас нічога не залежыць — пах ідзе ад каналізацыі метрапалітэна"*.

Незадаволеных шмат, але праблема пакуль не вырашана. У камунальным унітарным прадпрыемстве "Мінскі метрапалітэн" увогуле не знайшлося жадаючых паразмаўляць аб непрыемным паху каля Купалаўскага. Маўляў, начальнік **Станіслаў Юрэня** ў адпачынку, а інжынер на аб'екце, так што тэлефануйце ў Мінгарвыканкам. Яно, безумоўна, так, і ў цырк патэлефанаваць можна, і ў булачную, але якое гэта дачыненне мае да справы? Факт застаецца фактам — каналізацыйнае амбрэ нікуды не дзенецца само сабой.

Можна, канешне, спадзявацца, што "сюрпрыз" вынюхаюць госці чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе ці яшчэ раней — наведвальнікі Купалаўскага. Але Мінск можа згубіць рэпутацыю чыстага горада.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## Бабры пашкодзілі 150 метраў дамбы

Усю моц бабрынага энтузіязму зведалі ўчасткі дамбы, якая аддзяляе Днепра-Бугскі канал ад меліярацыйнага канала.

Пашкоджанні выявіліся пасля маніторынгу 10-кіламетровай дамбы на поўдзень ад вёскі Дамашыцы Пінскага раёна. Бабры істотна сапсавалі каля 150 метраў дамбы.

Зараз пагрозы для населеных пунктаў няма. Дамбу ўмацавалі — усталявалі драўляныя калы, прывезлі мяшкі з пяском і саломай, утрамбавалі грунт.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## Выкралі грошы, адабралі пісталет і звязалі касіра

Двое невядомых у масках абрабавалі аддзяленне "Белаграпрамбанка" ў Любані.

Пасля гэтага бандыты разам з грашыма з'ехалі на інкасатарскім аўтамабілі. Сума выкрадзеных грашовых сродкаў пакуль не агучваецца — удакладняецца. Узбуджана крымінальная справа.

ЗАКУЛІССЕ

## Лябедзька прыме Нямцова ў «партызанскай зямлянцы»

*Заўтра, 24 красавіка, у Беларусь прыедзе вядомы расійскі палітык і бізнесмен **Барыс Нямцоў.** Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька мае намер падпісаць з ім шэраг заяў аб супрацоўніцтве.*

Паводле слоў Лябедзькі, былі намеры арганізаваць сустрэчу з грамадскасцю па тэме беларуска-расійскіх адносін, аднак *"усе сталічныя гатэлі ў гэты дзень зачынілі свае канферэнц-залы"*.

*"Такая вось яна, беларуская гасціннасць. Але ж у нас столькі партызанскіх бліндажоў і зямлянак! Так што ўсё пройдзе па вызначаным плане!"* — не без іроніі заўважыў Анатоль Лябедзька.

Прэс-сакратар АГП Ганна Красуліна паведаміла некаторыя падрабязнасці "партызанскага" візіту Барыса Нямцова.

Так, у партыйным офісе ў 11.30 пройдзе прэс-канферэнцыя Анатоля Лябедзькі і Барыса Нямцова, а ў 15.30 у офісе Партыі БНФ — сустрэча палітыкаў з грамадскасцю. Яе тэма: беларуска-расійскія адносіны: рэаліі і перспектывы.

### ТЫМ ЧАСАМ

## Апазіцыю хацелі абяззброіць

На мінулых выхадных супрацоўнікі міліцыі мелі намер абшукаць кватэру лідара АГП.

Як паведаміў палітык, раніцай 20 красавіка ў яго кватэру пазванілі. У вочка ён убачыў на пляцоўцы дваіх міліцыянераў. Праз зачыненыя дзверы лідар АГП пацікавіўся пра прычыну ранняга візіту, на што праваахоўнікі адказалі, што хочуць агледзець жыллё палітыка *"на прадмет незарэгістраванай зброі"*. Лябедзька адмовіўся пускаць міліцыянераў, пасля чаго яны яшчэ некалькі хвілін знаходзіліся ў калідоры за дзвярыма, а затым сышлі.

*"Я звязваю гэтую сітуацыю з двума абставінамі,* — цытуе Лябедзьку БелаПАН. — *Гэта можа быць псіхалагічны ціск, паколькі не вельмі прыемна, калі табе ў 7.00 звоніць міліцыя і хоча агледзець кватэру ў пошуках незарэгістраванай зброі. Аднак я за апошні час стаў таўстаскурым да такіх спроб ціску. Другая прычына візіту, магчыма, звязана з нейкай інструкцыяй: праводзіць падобныя дзеянні ў радыусе некалькіх кіламетраў ад месцазнаходжання Аляксандра Лукашэнкі, які ў той дзень працаваў на суботніку. Тады гэта падобна на палітычную шызафрэнію".*

# Які лёс чакае беларускую навуку?

*Шосты месяц Нацыянальная акадэмія навук Беларусі застаецца без кіраўніка. Агульны сход НАН РБ, папярэдне прызначаны на 19 красавіка, перанесены на нявызначаны тэрмін. Канкрэтныя планы рэфармавання навуковай галіны таксама не вызначаны, і чуткі на гэты конт у акадэмічных калектывах ходзяць самыя розныя. Навуковая супольнасць дэзарыентавана, калі не сказаць дэмаралізавана.*

*Што наогул адбываецца з беларускай навукай? Хто вядзе патаемную барацьбу за права кіраваць ёю? Ці праўда, што абмяркоўваецца ідэя ліквідацыі Акадэміі навук?*

*"Народную Волю", вядома, не могуць не цікавіць гэтыя і іншыя пытанні. 9 красавіка быў надрукаваны артыкул акадэмікаў Аляксандра Вайтовіча і Уладзіміра Логінава пад загалоўкам "Чем больна наука?". Сёння публікуецца водгук на яго доктара біялагічных навук Леаніда Емяльянава. Сенсацыйным уяўляецца ліст Міхаіла Мясніковіча да Аляксандра Лукашэнкі. Мяркуем, што размова будзе працягнута.*

**РЕЗОНАНС**



## От псевдореформ к псевдонауке

В статье академиков НАН Беларуси Александра Войтовича и Владимира Логинова ("Народная Воля", 9 апреля с.г.) дан исчерпывающий анализ положения, в котором находится наша наука, и предложены пути выхода из теперешнего (ненормального) ее состояния. Александр Павлович уже не раз в своих публикациях затрагивал эту важную и близкую ему тему, которая волнует его как бывшего президента НАН Беларуси, болеющего душой за происходящее в ней, и просто как гражданина. Той же позиции придерживается, как видим, и другой видный академик. Их единомышленников в академической среде, думаю, немало. И жаль, что пока не слышно их голосов. Ведь речь идет не о пустяках, а о судьбе белорусской науки.

Полностью согласен с положениями статьи. Науке нужны реформы, но не такие, которые ведут к ее деградации. А начинать, считаю, надо с возврата ученым права самим решать накопившиеся проблемы, а не чтобы это делали чиновники сверху, какими бы ясновидцами они ни представляли себя. Первым эти проблемы ближе и понятнее. Научный поиск — тонкая материя, не стоит рубить ее топором. Я вернул бы руководителю академии и прежнее весомое название должности — президент, более отвечающее его статусу и принятое в других странах мира. Даже тут не посчитались с мнением научной общественности. С какой стати его записали в безликие председатели? Тогда уж и подчиненных ему директоров институтов, и академиков давайте именовать бригадирами.

Авторы статьи вполне справедливо пишут об имитации организационных реформ в нашей науке, которые проводились в последнее время. Приведу конкретный пример. Объединили четыре разнопрофильных биологических института: зоологии, экспериментальной ботаники им.В.Ф.Купревича, леса, Центральный ботанический сад. Причем головным почему-то сделали не тот, из которого отпочковались все остальные — Институт экспериментальной ботаники им.В.Ф.Купревича. Может, он утратил свои передовые позиции? Отнюдь. Кадры здесь солидные, и научные разработки по-прежнему востребованы.

Но дело даже не в том, пусть базовым будет другое научное учреждение, лишь бы это пошло на пользу делу. Но никаких выгод от подобного чисто формального объединения государство не получит. Институты тесно сотрудничали и до этого. Прибавится только волокиты и лишних бумаг, от растущего вала которых и так все давно пищат. Очень возможно, что реформаторы преследовали совсем иную цель: сократить численность сотрудников. Сначала для видимости объединить, а потом через некоторое время сказать: что-то вас тут много развелось, господа, под одной крышей, слишком накладно для экономики. Но такие вещи надо делать открыто и обоснованно. Манипулировать судьбами грамотных людей не стоит. Перспективная молодежь и так бежит за границу, где экспериментальная база и другие условия работы надежнее.

Особенно тревожна в Беларуси ситуация с наукой фундаментальной — матерью технического прогресса. Складывается впечатление, что ее усиленно стараются полностью перевести на прикладные рельсы. Сначала ее "разбавили" институтами явно не академического профиля, которые прекрасно существовали и под старой вывеской. А теперь, вложив мизерные средства, требуют от фундаментальной науки немедленной и весомой отдачи. Как в китайском анекдоте: вчера посеял, а завтра, будь добр, собери урожай.

Но открытия не делаются по заказу. Это аксиома. В экспериментальной работе бывают неудачи, и с этим тоже приходится мириться. Такова уж специфика научных исследований. Как сказал один мой коллега, "торопливость уместна лишь при ловле блох, у нас же ценится основательность". И он прав. Решение серьезных задач скоростными темпами неизбежно выльется в профанацию науки. И она уже происходит, в том числе и благодаря непродуманным реформам.

Сейчас, к сожалению, в фундаментальной науке все больше практикуются дешевые скоротечные программы, которые раньше уничижительно именовали не иначе, как мелкотемье. Теперешний исследователь хватается за любой предложенный ему рубль, ибо другого можно и не дождаться. Или перехватят другие. Послушаешь в итоге его отчет — сплошь положительные эффекты, в которые верится с трудом. Чем бы ни капнул на растение — все хорошо. Помню, меня даже однажды упрекнули на ученом совете, что получил отрицательный результат, забыв, что в науке это тоже результат. Столь же значимый, что и положительный.

Вполне понимаю, что наука, как и всякая государственная структура, не может быть бесконтрольной. Но она развивается по своим, присущим только, ей законам. И эту объективную реальность нельзя отменить никаким указом сверху. Нужно просто учитывать. Волюнтаризм здесь неуместен. Вспомним того же Лысенко, который когда-то порезвился на биологической науке (в том числе и на белорусской). Потоптался по ней и Никита Хрущев. К чему это привело, хорошо известно. Может, хватит?

Руководящим чиновникам стоит иногда приостановиться, унять свой реформаторский зуд и внимательнее прислушаться к разумным голосам из глубин самой науки.

Пока ее не доконали окончательно.

**Леонид ЕМЕЛЬЯНОВ,**
**доктор биологических наук.**

**БЕЗ ГРИФА «СЕКРЕТНО»**

## Реформа Мясниковича

*Слухи об этом документе взбудоражили научное сообщество. Кто-то слышал о существовании письма премьер-министра Михаила Мясниковича Александру Лукашенко с предложением ликвидировать и Национальную академию наук Беларуси, и Госкомитет по науке и технологиям. Кто-то знает людей, которые сами видели документ, подписанный нынешним главой правительства, членом-корреспондентом НАН РБ Михаилом Мясниковичем, в котором предлагается создать в стране Министерство науки. Третьи однозначно утверждают со ссылкой на "абсолютно достоверные источники на самом верху", что никакие такие предложения не обсуждаются, просто научное сообщество от безделья фонтанирует небылицами...*



*"Народная Воля" смогла получить ксерокопию документа, обросшего самыми невероятными слухами и домыслами. Поскольку тема реформирования белорусской науки представляет государственную важность, но не является государственной тайной, то редакция решила ознакомить с письмом М.Мясниковича на имя А.Лукашенко своих читателей. Вот его текст.*

Глубокоуважаемый Александр Григорьевич!

Глобальные кризисные процессы, включая нагнетание военно-политической напряженности, сотрясающие сегодня страны и континенты — **это фон зарождения нового технологического базиса мировой экономики** как объективной необходимости нового этапа мирового развития. Беларусь должна успеть "встроиться" в постиндустриальную **технологическую волну.** Стандартными мерами, будь то экономическими, рыночными или директивными это **не решить** — нужен **мобилизационный сценарий технологического прорыва** и соответствующая ему система управления наукой и инновациями.

**Для решения указанной задачи предлагается:**

**1.Ликвидировать** Национальную академию наук Беларуси и Госкомитет по науке и технологиям, которые **не способны** в существующем виде решать задачи инновационного прорыва и модернизации экономики.

**2.Научно-исследовательские институты** (НИИ) и **научно-практические центры** (НПЦ) нынешней Национальной академии наук Беларуси:

прикладной направленности — **включить** в состав холдингов и производственных объединений как научное ядро;

межотраслевой и фундаментальной направленности — вывести в самостоятельный блок (холдинг, объединение и т.п.), который будет управляться Дирекцией. Отдельные НИИ и НПЦ при этом могут быть лишены юридических лиц и работать как структурные подразделения, например, Центра научных исследований, управляемые названной Дирекцией.

Название "академические" следует определять исходя **из уровня решаемых задач.** Статус "академический" присваивать образцовым, классическим научным организациям. При этом придется проявить принципиальность и **сократить** направления научных исследований, имеющих **сомнительную** перспективу, а за счет высвобождаемых средств **существенно,** не ниже российского уровня, повысить зарплату ученых.

**3.Создать Академию наук Республики Беларусь как государственный институт,** имеющий властные полномочия и **регулирующий научно-техническую деятельность всех**, вне зависимости от собственности и подчиненности, субъектов инновационного процесса.

**Академия наук Республики Беларусь** будет осуществлять **практическую работу** и нести **ответственность** за:

научное обеспечение экономической, социальной и политической модели развития Республики Беларусь;

формирование государственного заказа и организацию создания предприятий "новой экономики";

государственную экспертизу программ и проектов, итогов выполнения целевых задач, поставленных Главой государства;

выполнение функций, сегодня возложенных на Госкомитет по науке и технологиям;

подготовку государственных программ и проектов.

**Президиум** Академии наук Республики Беларусь — высший государственный орган управления научной сферой формируется **Президентом Республики Беларусь** из числа руководителей госорганов, ведущих конструкторов, ученых, выдающихся специалистов и руководителей.

**Бюро Президиума** Академии наук Республики Беларусь — постоянный рабочий орган Президиума, формируется **Президентом Республики Беларусь** из числа членов Президиума Академии наук Республики Беларусь.

**Председатель Президиума** Академии наук Республики Беларусь назначается **Президентом Республики Беларусь и одновременно является** Заместителем главы Администрации Президента Республики Беларусь или Первым заместителем Премьер-министра Республики Беларусь.

**Отделения наук.** Руководители отделений наук назначаются Президиумом Академии наук, возможно, в том числе и из членов Президиума. В состав отделений включить ведущих ученых и специалистов нашей страны.

**Аппарат** Академии наук Республики Беларусь — обеспечивает организационно-техническое обслуживание Президиума, Бюро и отделений наук. Выполняет также функции, возложенные в настоящее время на Государственный комитет по науке и технологиям.

Таким образом, создавая **полноценный государственный институт развития** с полномочиями и ответственностью, **уходим от сомнений в объективности решений Академии наук,** сохраняем и совершенствуем управление научной сферой, повышаем ответственность ученых и результативность их деятельности. Исключаем также деление научных учреждений на "свои" (академические) и "чужие" (отраслевые, вузовские): **все научные учреждения страны** работают как подрядчики по сценариям Президиума, а основные суммы бюджетного финансирования предоставляются на конкурсной основе **лучшим** и в рамках госзаказа (госпрограммы, целевые проекты и задачи).

### Об основных функциях

**Президиум Академии наук Республики Беларусь** организует **практическую работу** по следующим направлениям.

**1.Инновационное развитие и модернизация экономики:**

— направляет деятельность отраслевой науки и конструкторских бюро путем принятия обязательных к исполнению решений;

— дает оценку уровню развития предприятий, их модернизации;

— формулирует требования технического развития отраслей и видов деятельности;

— может являться заказчиком создания предприятий и отраслей "новой экономики" **принципиально** нового или **межотраслевого** характера.

**Результат:**

развитие экономики за счет создания новых предприятий и видов деятельности, модернизация действующих производств для обеспечения конкурентоспособности экономики, а не только исходя из мнения отраслевого или функционального министерства (ведомства).

**2.Расширенное воспроизводство инновационного потенциала страны:**

— обеспечивает оценку деятельности фундаментальной науки, осуществляет постановку задач перед фундаментальной наукой, организует формирование научных школ под приоритеты;

— осуществляет руководство подготовкой кадров высшей научной квалификации и балансировку численности и структуры специалистов с высшим и средним специальным образованием для народного хозяйства.

**Результат:**

развитие научных школ мирового уровня, международное научно-техническое сотрудничество;

обеспечение (включая планирование) экономики страны высокообразованными и профессиональными кадрами с учетом задач ее развития и модернизации.

**3.Заказ высшей школы на подготовку кадров в увязке с перспективной структурой экономики:**

— создание и развитие учебно-производственных центров ("сквозная" подготовка кадров);

— вопросы образования и методологии научной деятельности (научить учиться, ставить научные задачи, системный анализ, правила ведения исследовательской деятельности).

**Результат:**

подготовка специалистов для научной и научно-технической деятельности, кадров для "новой экономики".

**4.Создание и совершенствование научно-практических центров:**

— полигоны для апробации научных результатов;

— опытное и опытно-промышленное производство.

**Результат:**

внедрение результатов научно-технической деятельности;

рациональное расходование средств на подготовку производства новой продукции и технологий.

**Академия наук Республики Беларусь** — формируется как государственный институт, интеллектуальный центр, обязательный атрибут государства. Наряду с институтами Власти, общественными организациями, церковью, СМИ, Академия наук формирует основу современного общества, позиционирует страну в мире.

В настоящее время научная сфера во многом зависит от реального сектора экономики, как финансирующего и оценивающего деятельность науки. Из-за этого страдает **объективность.** Следовало бы **разорвать этот круг,** поскольку президенту страны нужна оценка положения дел, **лишенная субъективизма, научно-обоснованная.** Члены Президиума Академии наук Республики Беларусь, ведущие ученые должны быть как публичными личностями, так и лицами, осуществляющими **конфиденциальное консультирование** руководителей властных структур.

Ученых **отстранили от политики,** это **правильно** — пусть занимаются наукой, но члены Президиума Академии наук, как ученые и руководители научной сферы должны быть публичными деятелями. Их выступления, позиция должны способствовать **консолидации** общества на выполнение **политического курса страны.**

Предлагаемая схема позволяет решать реальное **научное обеспечение белорусской модели экономического и социального развития.**

Близкие по содержанию предложения предлагались мною в первые годы работы в Академии наук, но были отклонены Администрацией Президента Республики Беларусь с несостоятельной, на мой взгляд, формулировкой: *"слишком много власти", "все яйца в одну корзину нельзя класть", "кому подчинить Академию", "кто будет контролировать Академию"* и т.п.

При Вашей **принципиальной поддержке** изложенных подходов, уважаемый Александр Григорьевич, Правительство отработает детали, организационные и правовые аспекты кардинальной модернизации системы управления наукой и внесет на Ваше рассмотрение проекты соответствующих нормативных правовых актов.

**С уважением —**

**М.МЯСНИКОВИЧ.**

*(Сохранен стиль автора.)*


При Вашей **принципиальной поддержке** изложенны
подходов, уважаемый Александр Григорьевич, Правительств
отработает детали, организационные и правовые аспекть
**кардинальной модернизации системы управления наукоі**
и внесет на Ваше рассмотрение проекты соответствующи
нормативных правовых актов.

С уважением,

18.02.2013г.

М.Мясникович

**ЦІ ПРАЎДА, ШТО...**

## Аляксандр Косінец ірвецца ў Нацыянальную акадэмію навук?



Факт: вось ужо некалькі месяцаў Нацыянальная акадэмія навук Беларусі дзейнічае без кіраўніка. 23 кастрычніка мінулага года старшыня прэзідыума НАН Беларусі **Анатолій Русецкі** быў абраны намеснікам старшыні Савета Рэспублікі, і Акадэмія навук засталася "абезгалоўленай". Калі б вырашэнне гэтага пытання залежала толькі ад вучоных, яны даўнымдаўно абралі б сабе начальніка. Але ўжо каторы год галоўнае слова застаецца за прэзідэнтам краіны. Ён прызначае старшыню прэзідыума НАН сваім указам.

На кім спыніць свой позірк Аляксандр Лукашэнка — цяжка сказаць.

Але кажуць, што барацьба вакол пасады ідзе сапраўдная. Прэтэндэнты падключаюць адміністрацыйны рэсурс, вядуць перамовы з высокапастаўленымі чыноўнікамі, якія могуць калі не паўплываць на рашэнне Лукашэнкі, дык у падыходзячы момант нагадаць іх прозвішча кіраўніку дзяржавы.

Па чутках, сярод прэтэндэнтаў сем чалавек, дзве кандыдатуры найбольш верагодныя. Гэта — генеральны дырэктар Аб'яднанага інстытута машынабудавання НАН Беларусі **Андрэй Дзюжаў** і старшыня Віцебскага аблвыканкама **Аляксандр Косінец**. Праўда, ні адзін з іх не з'яўляецца ні членам-карэспандэнтам, ні акадэмікам. Косінец — доктар медыцынскіх навук, Дзюжаў — кандыдат тэхнічных навук. Праўда, Дзюжаў з'яўляецца членам прэзідыума Акадэміі навук, ён генеральны канструктар па збожжаўборачнай і кормаўборачнай тэхніцы Міністэрства прамысловасці Беларусі. Яшчэ адзін факт з біяграфіі Андрэя Дзюжава: ён лаўрэат дзвюх прэстыжных прэмій — Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Савета міністраў.

Што самі верагодныя прэтэндэнты думаюць пра магчымы паварот у іх кар'еры, на жаль, даведацца не атрымалася. Нашы тэлефонныя званкі прыходзілі якраз у той момант, калі яны, са слоў сакратарак, былі альбо на нарадзе (прычым адна адразу ж змянялася другой), альбо на выездзе і г.д. Сакратарка Аляксандра Косінца, праўда, шчыра здзівілася магчымай перспектыве яе шэфа ўзначаліць Акадэмію навук. "*Куды-куды вы зараз пасылаеце Аляксандра Мікалаевіча?* — запытала яна і працягнула: — *Першы раз чую пра такую інфармацыю*". А вось сакратарка Андрэя Дзюжава пацвердзіла чуткі пра магчымую новую пасаду яе начальніка: *"Размовы былі. Але зараз кажуць, што такога прызначэння можа і не быць".*

Чаму?

Дарэчы, 19 красавіка павінен быў адбыцца Агульны сход Акадэміі навук, на якім звычайна падводзяцца вынікі працы за год і зацвярджаецца канцэпцыя і доўгатэрміновыя прагнозы развіцця беларускай навукі. Але сёлета ў апошні момант сход адмянілі.

У акадэміі сцвярджаюць, што менавіта з-за таго, што Аляксандр Лукашэнка дагэтуль не прызначыў кіраўніка НАН. Больш за тое, невядома, ці ўвогуле захаваецца такая ўстанова, як Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Былы яе кіраўнік, а зараз прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч прапанаваў ліквідаваць Нацыянальную акадэмію навук Беларусі і Дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях, якія, на яго думку, "не здольныя ў існуючым выглядзе вырашаць задачы інавацыйнага прарыву і мадэрнізацыі эканомікі".



**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 КРАСАВІКА 2013 г.

БЕЗ ГАЛЬШТУКА

*Андрусь ТАКІНДАНГ:*

# «Можна быць небагатым, але шчаслівым»

*Здаецца, аптымізм ніколі не пакідае гэтага чалавека. Ён не скардзіцца на жыццё, бо лічыць такую справу смешнай. Піша вершы і музыку для таго, каб дарыць людзям радасць.*

*"Народная Воля" пагутарыла з лідарам гурта "Рэха", паэтам, мастаком і тэлевядучым* ***Андрусём ТАКІНДАНГАМ.***

## З вёскі да рок-н-ролу

**— Андрусь, ведаю, што ваш тата — з Чада, а маці — з Беларусі...**

— Так. Яны пазнаёміліся, калі былі студэнтамі. Бацька навучаўся ў Мінску, ён матэматык. Звычайная гісторыя знаёмства маладых людзей...

**— Чытаў, што вы хадзілі ў звычайную вясковую школу. Некаторыя, дарэчы, саромеюцца такога факта...**

— Я паступіў у каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка і стаў жыць у горадзе. У каледжы навучаліся будучыя мастакі з усёй Беларусі, таму адчування комплексу правінцыяла не было. Асяроддзе было завязана на мастацтве, жывапісе, рок-н-роле, і пытання, з вёскі чалавек ці не, не ўзнікала.

Калі вяртаешся з вёскі ў Мінск, адчуваеш моцную фізічную сілу і вялікае жаданне пажыць напоўніцу, адсутнічае гэткая гарадская стома. Я адчуваў здаровы стан, жаданне даганяць і пераганяць аўтобусы, працаваць інтэлектуальна.

**— Ведаю, што нейкі час вы жылі з бацькамі ў Маскве. А ў Афрыцы, на радзіме бацькі, былі?**

— У Чадзе я быў на пахаванні бацькі. Пазнаёміўся з сваякамі, крыху пажыў і вярнуўся ў Беларусь.

**— Да таго як паступіць ва Універсітэт культуры, вы былі студэнтам Акадэміі мастацтваў, але былі адлічаны. Калі не сакрэт, што адбылося?**

— Усё банальна: не здаў сесію. Атрымаў двойкі па некалькіх мастацкіх дысцыплінах.

**— Усе ведаюць, што Андрусь Такінданг заўсёды карыстаецца беларускай мовай. Ці адбываліся нейкія не зусім прыемныя выпадкі праз гэта?**

— Былі моманты неадэкватнай агрэсіі, але яны адзінкавыя. Часам сустракаюцца апантаныя людзі, і любая рэч можа паслужыць каталізатарам канфлікту. Памятаю, у Вільнюсе мы спявалі на вуліцы, і адзін чалавек, ужо ў гадах, быў дужа абураны, што я спяваю па-беларуску.

Звычайна калі не разумеюць, то перапытваюць. І мне няцяжка перакласці на рускую мову.

**— Не так даўно невялікае інтэрв'ю з вамі з'явілася на папулярным партале onliner.by. Гэты тэкст выклікаў рэзананс і сабраў шмат каментарыяў. Некаторыя наведвальнікі сайта абураліся, што тэкст напісаны па-беларуску. І прынцыпова не чыталі яго. Цікава, як вы ставіцеся да беларусаў, якія не ведаюць ці не паважаюць родную мову?**

— На "Онлайнеры", вядома, рэзананс выклікала не мая сціплая асоба, а мова, на якой вялася гутарка. Розгалас ад звычайнага інтэрв'ю моцна здзівіў. Здараліся і дагэтуль выпадкі, калі маё з'яўленне ў перыёдыцы правакавала гарачыя баталіі. Але ўсё ж меркаваў, што моўнае пытанне не з'яўляецца актуальным ужо год як 13. І збольшага стаўленне да мовы ў наш час абыякавае. Аднак, верагодна, я памыліўся, люд і дагэтуль пераймаецца мовай ды яшчэ дадае ідэалагічную афарбоўку спрэчкам. Сам я чалавек досыць прагматычны і не схільны рамантызаваць мову, мова для мяне ў першую чаргу сродак зносін.

Якое маё стаўленне да тых, хто не ведае роднай мовы, і да тых, хто яе не шануе? Нацыянальная мова, мова сям'і, роду — яна аб'ядноўвае людзей у супольнасць, бароніць ад знешняга ўмяшальніцтва, стварае зону бяспекі. Нацыянальная мова найбольш прыдатная ў побыце, яе развіццё адпавядае развіццю носьбітаў. Нацыянальная мова ў першую чаргу — зручная (я свядома не ўзгадваю ідэалагічны, культурніцкі і духоўны аспекты мовы).

Калі супольнасць, краіна знаходзяцца ў стане хваробы альбо крызісу, то, натуральна, гэта будзе адбівацца на нацыянальнай мове. Такім чынам, малое бытаванне нацыянальнай мовы — вынік хваробы нацыі, і сімптомы гэтай хваробы выяўляюцца ва ўсіх сферах жыццядзейнасці беларусаў.

Людзі, што не валодаюць мовай, — паказчык драматычнага гістарычнага працэсу, вынік тых войнаў, якія мы прайгралі. Але я маю тых людзей, якія ёсць, і люблю сваіх суайчыннікаў — беларускамоўных, рускамоўных, трасянкамоўных. Калі рэзюмаваць адказ на гэтае пытанне, то атрымаецца так: я шаную асобу, паважаю чужую свабоду, люблю жывую душу чалавека, спачуваю.



**ВІЗІТКА**

***Андрусь Такінданг***

*Музыкант, паэт, мастак.*

*Вядучы рубрыкі "Беларуская мова" на канале АНТ.*

*Нарадзіўся ў 1983 годзе ў сям'і беларускі і ўраджэнца Чада.*

*Скончыў мастацкі каледж імя Ахрэмчыка і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры.*

*Жыве ў Мінску.*

## Паміж музыкай і фінансамі

**— У адным інтэрв'ю вы сказалі: "*Жывапіс — гэта палатно і я. Хачу есці — малюю, шукаю нейкіх пакупнікоў, не хачу — магу гэтым не займацца. А музыка патрабуе большай адказнасці і руплівасці, бо там занята шмат людзей, якія на мяне спадзяюцца*". Ці правільна я разумею, што музыка — ваша галоўная справа, а ўсе астатняе — другаснае?**

— Музыка займае больш часу, чым заняткі мастацтвам. Яна вымагае больш адказнасці і рэгулярнасці. Частыя рэпетыцыі, паездкі, арганізацыя транспарту і шмат яшчэ якіх побытава-творчых момантаў.

Песні ствараюцца ў галаве. Але, каб іх агучыць, патрэбна агульная праца. Што тычыцца выяўленчага мастацтва, тут усё больш проста.

**— А калі б прыйшлося выбіраць?**

— Складанае пытанне, падобнае да таго, якую руку адсекчы — правую ці левую. Выбар робіцца ўвесь час, але зрабіць канчатковы выбар немагчыма.

**— Наколькі важны для вас матэрыяльны складнік у творчасці?**

— Важны настолькі, наколькі хочацца есці. Мы, дарэчы, шмат разоў абмяркоўвалі пытанне творчасці і грошай з калегамі-музыкамі. Усе пачыналі з авантур, са студэнцкіх выступленняў, маглі дабірацца на канцэрты са сваёй апаратурай, за свае грошы і не думаць аб матэрыяльным. З часам, калі паўстаў выбар зарабляць грошы на жыццё і кідаць музыку альбо зарабляць музыкай, гэтае пытанне актуалізавалася. Што такое ганарары? Гэта матэрыяльнае выяўленне тваёй запатрабаванасці.

**— Ці магчыма ў Беларусі зарабляць музыкай на жыццё?**

— Магчыма, але складана. З іншага боку, усё складана ў Беларусі. Нялёгка быць настаўнікам з іх заробкамі...

Для музыкантаў, акрамя Беларусі, ёсць і суседнія краіны. Гастролі — гэта нармальная практыка. Трэба разлічваць свае сілы, ведаць, чаго хочаш, і ахвяраваць чымсьці. Мець пэўны прыбытак магчыма.

**— Карацей, сітуацыя не катастрафічная?**

— Катастрафічная. Але жыць можна. Ёсць цяжкасці, але нельга наракаць на тое, што ты выбраў сам. Музыка павінна прыносіць радасць у глыбокім сэнсе. Таму брацца за музыку і ныць, што нешта не атрымліваецца, — для мяне смешна.

## На карпаратыў да дзядзі Васі

**— Вы граеце ў гурце фолькмадэрновай музыкі "Рэха". На карпаратывах выступаеце?**

— З вялікім задавальненнем! І з большай радасцю, чым на некаторых фэстах. Ёсць розныя канцэрты ў падтрымку Беларусі ў Польшчы, ты выступаеш там, атрымліваеш ганарар, але нам прыемней спець на карпаратыве ў дзядзі Васі, які хоча павесяліць сваіх сяброў. Менавіта такія выступленні паказваюць, наколькі калектыў жыццяздольны. Розныя рэчы: калі ты спяваеш на грошы польскіх падаткаплацельшчыкаў ці на сродкі дзядзі Васі, які працаваў, эканоміў, каб запрасіць нас. Гэта насамрэч вельмі важна. Мы вядзём гутарку з чалавекам, і мы шукаем чалавека, вось такая канцэпцыя гурта "Рэха". З вялікай радасцю спяваем на вяселлях, карпаратывах, таму што чалавек для нас — скарб.

**— Ведаю, што гурт часам ладзіць вулічныя канцэрты. Выступленне на сцэне і на вуліцы для вас моцна адрозніваюцца?**

— Вядома, што выступаць у зале камфортней, але на вуліцах ёсць свой адрэналін. Падчас выступлення на вуліцы рэакцыя людзей больш смелая. Камусьці не падабаецца, ён можа сказаць. Там цябе могуць пачуць тыя людзі, якія ўвогуле не ходзяць на канцэрты. На вуліцы заўважаеш, наколькі ты можаш кантраляваць выпадковых людзей сваім мастацтвам, наколькі ты ім цікавы.

**— А як пачаліся вулічныя канцэрты?**

— Аднойчы мы хацелі паехаць на "Славянскі базар", спяваць на вуліцах Віцебска. Але гэта было падчас выбуху ў горадзе, і таму быў вельмі моцны кантроль. І ў нас з'явілася такое адчуванне, што мы страчваем горад і сябе ў гэтым месцы. І тады мы вырашылі проста пайсці ў сэрца Мінска, да Ратушы. Скалануць гэтае застаялае, безнадзейнае паветра для сябе ў першую чаргу. Мы хацелі пераламіць нашу ўнутраную сітуацыю і даказаць сабе, што мы свабодныя. Адэкватна разумеючы, дзе жывём, на добры фінал надзеі не было. Але выступленне прайшло, і нічога дрэннага не адбылося. Потым мы спявалі яшчэ некалькі разоў, і гэта стала традыцыяй.

**— Непаразуменняў з міліцыянтамі не было?**

— Ніякага пераследу з боку міліцыі не было, пры тым што каля Ратушы збіралася да 200 чалавек. Нашы вулічныя выступленні працягваліся да выбуху ў метро. Пасля гэтага мы вырашылі больш не граць на вуліцах.

**— Атрымліваецца, сёння "Рэха" на вуліцы не сустрэнеш?**

— У мінулым годзе нам патэлефанавалі з аддзела культуры гарвыканкама і запрасілі выступіць на вуліцы Карла Маркса. І калі адбываўся гэты дыялог, у мяне на вачах ледзь слёзы не з'явіліся! Я не паверыў, што мы дажылі да такога!

З вулічных канцэртаў, з гэтых драбніц, пачынаецца фарміраванне чалавечнасці ў людзях. Можа, я кажу занадта пафасна, але такая вулічная культура, яе жыццяздольнасць стварае прастору еднасці. У гэтай прасторы людзі ўмеюць адзін з адным размаўляць, яны ўтвараюць не проста адзінкі журботных беларусаў, а пачынаюць фарміраваць народ.

Краіна пачынаецца з усмешак на вуліцы, з радасці ў жыцці чалавека. Дзяржаўны механізм павінен працаваць, каб людзі сябе адчувалі радасна і добра. Маглі выпіць віна, пасядзець на траве і паразмаўляць. Гэта не залежыць ад эканомікі. Можна быць небагатым чалавекам, але адчуваць сябе шчаслівым і паважаным. Усміхніся некаму — і табе таксама ўсміхнуцца. Для гэтага і мусіць працаваць дзяржава са сваімі структурамі.

Жыццё не лёгкае паўсюль. Людзі працуюць, маюць пэўныя праблемы, але калі яшчэ чалавека паганяць пугай і не даваць падняць галавы — гэта называецца пекла. Для радасці і свабоды чалавек павінен ведаць, што ён не прыгонны. Жыццё рухаецца не ў бок вязніцы і расстрэлу, а ў бок радасці. Калі на вуліцах выступаюць музыканты і ўсё праходзіць гладка, нікому не перашкаджаючы, гэта паказвае, што мы можам быць гаспадарамі на нашай тэрыторыі. Без таго, каб нас прыгняталі і стаялі з пугамі.

## З думкамі пра сям'ю

**— Вы маеце час на адпачынак?**

— Так, канешне. Самы класны адпачынак — дзесьці на гастролях пасля канцэрта замовіць сабе смачную вячэру з кухалем піва. Сядзіш і атрымліваеш асалоду.

**— Многія ведаюць Андруся Такінданга як вядучага рубрыкі "Беларуская мова" на АНТ...**

— Справа ў тым, што на тэлебачанне я трапіў выпадкова, без аніякіх намаганняў у гэты бок. Такі сюрпрыз лёсу. Мае думкі больш вакол музыкі круцяцца: як запісаць лепш песню, як прыдумаць добры тэкст і мелодыю... Калі казаць пра кар'еру на экране, то я разумею, што ёсць куды больш таленавітыя вядучыя, цікавыя суразмоўцы. Хутчэй за ўсё тэлебачанне — гэта часова.

**— Андрусь, некаторым творцам для працы патрэбна, напрыклад, адзінота. А што натхняе вас?**

— Вядома, нельга нешта ствараць, калі вакол карнавал. У творчасці дапамагаюць узаемаадносіны. Здаралася так, што нейкія ўзаемаадносіны завяршаліся, а шмат нявыказанага заставалася. Тыя незакончаныя дыялогі ператвараліся ў песню.

**— Што забірае больш сіл: праца над музыкай ці паэзія?**

— Усё толькі дадае сіл. Над паэзіяй можна працаваць у галаве, і тады нават не заўважаеш часу. Увогуле, музыка трошкі з'ела паэзію. Калі нараджаюцца нейкія радкі, яны нараджаюцца з мелодыяй.

**— Дзе бліжэйшым часам можна пачуць гурт "Рэха"?**

— 30 красавіка будзем у Віцебску. Плануецца добры канцэрт з удзелам Паліны Рэспублікі, Андрэем Хадановічам з вершамі, мясцовыя каманды...

**— На сённяшні дзень вы дасягнулі пэўных поспехаў у творчасці. А як справы на асабістым фронце?**

— Поспехі — гэта ўсё вельмі ўмоўна. Думаю, што проста абставіны склаліся для мяне спрыяльна. Слова "поспех" у мяне выклікае ўсмешку. Ты знаходзішся на гэтым марафоне і бачыш, што і тое не паспяваеш, і гэта не атрымліваецца... З музыкантамі мы абмяркоўваем, як павінна быць і як ёсць, і разумеем, наколькі мы далёка да жаданага...

Сям'я, канешне, гэта цудоўна. Вядома, як кожны мужчына ў пэўны перыяд часу, разумею, што рок-н-рол — гэта весела і добра, але ж ён не будзе доўжыцца ўсё жыццё. Калі раней была прага да суцэльнага карнавалу і весялосці, то цяпер, па шчырасці, усё больш думкі пра сям'ю. Аднак, каб будаваць сям'ю, неабходна ўзаемнае пачуццё. Як мужчына, я адразу звяртаю ўвагу на дзявочую прыгажосць, затым пры знаёмстве раскрываецца характар і першынство бярэ асоба чалавека. Калі падсумаваць, то для мяне важна, каб тая, на якую гляджу, была для мяне прыгожай, мела адэкватны характар, верыла ў Бога, была здольная радавацца жыццю і магла б мне прабачаць...

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ВІНШУЕМ!

## *Анджэя Пісальніка ўзнагародзілі прэстыжнай журналісцкай прэміяй імя Мацея Плажыньскага*

*Гэта прэмія для журналістаў, якія асвятляюць жыццё польскіх дыяспар. Уручэнне ўзнагароды адбылося ў музеі горада Гдыня, паведамляе Radio Gdansk.*

Пісальнік стаў найлепшым у катэгорыі "Журналіст паланійнага СМІ". Яго артыкулы ў газеце "Rzeczpospolita" і ў выданнях неафіцыйнага Саюза палякаў "Magazyn Polski" і "Glos znad Niemna" адзначылі за прафесіяналізм і ўзняцце важных для польскай супольнасці ў Беларусі пытанняў доступу да польскай адукацыі, свабоды дзейнасці Саюза палякаў, а таксама дакументаванне польскай спадчыны.

Патрон узнагароды Мацей Плажыньскі — дзеяч польскай антыкамуністычнай апазіцыі, першы некамуністычны гданьскі ваявода, маршалак Сейма Польшчы і віцэ-маршалак Сената Польшчы. Ён загінуў 10 красавіка 2010 года ў авіякатастрофе пад Смаленскам. У яго памяць і заснавалі прэмію для журналістаў.

ЖЫВАЯ ГІСТОРЫЯ

## *Унікальны Статут*

*У музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі можна пабачыць адзіны ў Беларусі асобнік Статута Вялікага Княства Літўскага.*

*У адрозненне ад кодэксаў на лацінскай мове іншых еўрапейскіх краін Статут быў напісаны і выдадзены на зразумелай абсалютнай большасці жыхароў Княства старабеларускай мове.*



Статут ВКЛ 1588 года дзейнічаў амаль 250 гадоў. У яго стварэнні бралі ўдзел такія выдатныя дзеячы беларускай гісторыі, як канцлер **Астафей Валовіч** і падканцлер **Леў Сапега**.

Статут надрукаваны ў 1594—1595 гг. у Вільні, у друкарні Мамонічаў. Гэта адзіны ў Беларусі асобнік, які захоўваецца ў Музеі горада Магілёва і часова перададзены ў бібліятэку для экспанавання. У свеце налічваецца толькі каля 30 асобнікаў гэтага выдання.

*"Праз усе 14 раздзелаў і 488 артыкулаў гэтага збору законаў праходзіць ідэя прававой дзяржавы, у якой усе органы і служачыя павінны дзейнічаць строга ў адпаведнасці з нормамі і патрабаваннямі Статута, абавязковымі як для жыхароў Вялікага Княства, так і для прыезджых замежнікаў,* — анансуе выставу сайт Нацыянальнай бібліятэкі. — *Статут Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) — вяршыня старабеларускай юрыдычнай думкі XVI стагоддзя, выдатны помнік еўрапейскай прававой культуры эпохі Адраджэння. Статут 1588 года замацоўваў ідэю рэлігійнай талерантнасці і бараніў інтарэсы жыхароў краіны незалежна ад веравызнання".*

Выстава "Вялікі Статут Вялікага Княства" ў музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі будзе працаваць ***па 15 мая***.

БАМОНД

## *Паўмільёна долараў за канцэрт*

*У чэрвені ў Мінску чакаюць маладую зорку сусветнага маштабу з Амерыкі Лану Дэль Рэй. Хоць яе імя незнаёма большасці беларусаў, за одно выступленне ў "Мінск-Арэне" яна атрымае паўмільёна долараў.*



Спявачка **Лана Дэль Рэй** — абсалютная зорка нашага часу. Яе першы кліп, які дзяўчына зняла і змантавала сама, быў растыражаваны праз YouTube. Менавіта ў інтэрнэце яе талент знайшоў першых прыхільнікаў.

Беларусы, што сочаць за музычнымі навінкамі, таксама хутка ацанілі прыемны і глыбокі вакал Ланы. Канцэрт спявачкі ў Мінску завершыць яе гастрольны тур у падтрымку новага альбома "Born to Die". Па словах арганізатараў, ужо прадана палова квіткоў. Як гэта ні дзіўна, але першымі разышліся самыя дарагія, тыя, што каштавалі 850 тысяч. Продажы ідуць настолькі паспяхова, што канцэртнае агенцтва "Корпорация развлечений" мяркуе, ці не падвысіць кошты на квіткі непасрэдна перад канцэртам. Пакуль іх можна набыць па цане ад 300 да 800 тысяч беларускіх рублёў.

Не так і шмат, калі ўлічыць, што ганарар спявачкі па беларускіх мерках проста фантастычны — 500 тысяч долараў.

*"Сапраўды, за выступленне ў Мінску Лана атрымае названыя грошы,* — распавялі "Народнай Волі" арганізатары. — *Калі канцэрт дае зорка такой велічыні, то разлічваць варта на самы высокі клас шоу. Мы ўпэўнены, што беларускія гледачы змогуць атрымаць асалоду не толькі ад прыемнага аксамітнага голасу Ланы, але таксама і ад яе шоу-праграмы".*

Пра асобу Ланы Дэль Рэй вядома зусім няшмат. Вось і ніякіх асаблівых патрабаванняў да арганізатараў мінскага канцэрта дзяўчына пакуль не прад'яўляла.

Творчасць дзяўчыны з ЗША ацанілі ва ўсім свеце. Толькі ў Брытаніі яна атрымала некалькі прэстыжных музычных прэмій. Сёння стыль Ланы Дэль Рэй параўноўваюць з манерай спявачак **Адэль** і **Эмі Вайнхаўс**.

Выступленне Ланы Дэль Рэй адбудзецца ў "Мінск-Арэне" 12 чэрвеня.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

АНОНС

# «Баль у Соф'і Гальшанскай»: тут сыходзяцца зоркі!

*Зоркі тэлепраекта "Две звезды", фільма Карэна Шахназарава і нью-ёркскай Метрапалітэн-опера наведаюць "Баль у Соф'і Гальшанскай"*



7 чэрвеня ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту адбудзецца баль, у якім прымуць удзел зоркі музычных тэатраў Мінска, Масквы, Клайпеды, Каўнаса, Караганды і Баку. Падчас балю таксама пройдзе канцэртная прэзентацыя супермюзікла **Уладзіміра Кандрусевіча і Алены Туравай** "Соф'я Гальшанская", прэм'ера якога запланавана ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.

Адным з гасцей свята стане ўдзельнік тэлепраекта "Две звезды" маскоўскага Першага канала, акцёр Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра ім. Массавета **Глеб Мацвяйчук**, які выступае на тэлепраекце "Две звезды" з славутай **Вольгай Кармухінай**. На баль прыедзе і жонка Глеба — актрыса і спявачка **Анастасія Макеева** *(на фота)*.

Таксама ў супершоу "Баль у Соф'і Гальшанскай" прымуць удзел заслужаная артыстка Беларусі, якая дэбютавала ў 2013 годзе на сцэне нью-ёркскай Метрапалітэн-опера, прызнаная прыма опернага мастацтва Беларусі **Аксана Волкава,** лепшы Анегін апошніх сезонаў, лаўрэат міжнародных конкурсаў **Ілля Сільчукоў**, а таксама зоркі тэатраў СНД: **Фарыд Аліеў, Інара Бабаева, Самір Самедаў, Амантай Ібраеў** і іншыя.

## З асабістай справы

Глеб Мацвяйчук нарадзіўся 26 чэрвеня ў Маскве ў сям'і знакамітага кінамастака **Аліма Мацвейчука**. Працяглы час сям'я жыла ў Мінску, дзе Глеб скончыў Мінскі музычны каледж ім. М.Глінкі па спецыяльнасці дырыжор-харавік (клас заслужанага работніка культуры Беларусі **Адама Мурзіча**). Калі хлопцу споўнілася 16 гадоў, ён прыехаў у Маскву і паступіў адразу ў дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы: Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю ім. П.І.Чайкоўскага (вакальнае аддзяленне), а таксама ў Вышэйшае тэатральнае вучылішча імя Шчэпкіна. У 2005 годзе бліскуча скончыў кансерваторыю, у 2006-м — Шчэпкінскае вучылішча.

З 2011 года — акцёр тэатра імя Массавета. Выконвае ролю Джона Атэрсана ў рок-оперы "Дзіўная гісторыя доктара Джэкіла і містэра Хайда", Ісуса з Назарэта ў рок-оперы "Ісус Хрыстос — суперзорка".

Быў намінаваны на Нацыянальную прэмію ў галіне кінематаграфіі "Залаты арол—2008" у намінацыі "Лепшая музыка да фільма" (фільм "Адмиралъ").

У тэатры імя Массавета рыхтуецца да пастаноўкі мюзікл **Глеба Мацвейчука і Карэна Каваленава** "Небяспечныя сувязі", напісанага па матывах аднайменнага рамана Шадэрло дэ Лакло.

МАРШРУТЫ

## Больш за 40 дадатковых цягнікоў будуць курсіраваць на майскія святы

*На перыяд майскіх святаў Беларуская чыгунка прызначыла дадатковыя цягнікі міжрэгіянальных ліній па такіх папулярных напрамках, як Мінск—Брэст, Мінск—Гомель, Мінск—Віцебск.*

Як паведамляе сайт rw.by, на 30 красавіка і 8 мая прызначаны дадатковы цягнік №663 па маршруце Мінск—Брэст. Са сталіцы ён адправіцца ў 18.29 і прыбудзе ў Брэст у 23.20. У адваротным напрамку цягнік №664 будзе адпраўляцца 1 і 9 мая ў 5.49 і прыбываць у Мінск у 10.24. Акрамя таго, у гэтым кірунку па беларускай магістралі 4 і 9 мая будзе курсіраваць дадатковы цягнік №667/668. Час яго адпраўлення са сталіцы — 12.15, прыбыцця ў Брэст — 16.11. У адваротным напрамку цягнік адпраўляецца ў 16.49, прыбывае ў Мінск — 20.43.

На 8 і 9 мая прызначаны дадатковы цягнік міжрэгіянальных ліній № 632 Мінск—Гомель (час адпраўлення — 18.15, прыбыцця — 23.06). З Гомеля цягнік №631 адправіцца 9 і 10 мая ў 0.36 і прыбудзе ў сталіцу — у 6.11. Па гэтым маршруце таксама будзе курсіраваць дадатковы цягнік №629 Гомель—Мінск (8, 13, 14 і 15 мая) і №630 Мінск—Гомель (9, 14, 15 і 16 мая).

Па маршруце Мінск—Віцебск—Мінск 8 і 15 мая пасажыраў будзе перавозіць дадатковы цягнік № 653/654.

На 24 мая прызначаны дадатковы цягнік №628 Баранавічы—Мінск і №627 Мінск—Гродна.

Павялічваецца і колькасць дадатковых цягнікоў у міжнародных зносінах. На 11 мая Беларуская чыгунка прызначыла цягнік №210 Баранавічы-Палескія—Масква, які будзе адпраўляцца з Баранавічаў у 13.50 і прыбываць у Маскву 12 мая ў 5.08. У адваротным напрамку цягнік №209 адправіцца з Масквы 12 мая ў 11.33.

Нагадваем, раней Беларускай чыгункай на дні майскіх святаў былі прызначаны цягнікі ў міжнародных зносінах па маршрутах Мінск—Вільнюс, Баранавічы-Палескія—Масква, Мінск—Масква. Акрамя таго, беларускімі і расійскімі чыгуначнікамі ўзгоднена прызначэнне цягнікоў па такіх маршрутах, як Масква—Брэст—Масква, Масква—Мінск—Масква, Санкт-Пецярбург—Брэст—Санкт-Пецярбург. Таксама шэраг цягнікоў у святочныя дні будуць рухацца па беларускай магістралі транзітам.

Беларуская чыгунка працягне працу па забеспячэнні перавозак пасажыраў у перыяд майскіх святаў. Планууецца прызначэнне дадатковых цягнікоў для перавозак пасажыраў як у міжнародных зносінах, так і ў межах краіны. У тым ліку ў цяперашні час прапрацоўваецца пытанне прызначэння шэрагу дадатковых цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа.

ФУТБОЛ

## БАТЭ дагнаў лідараў

*У мінулыя выхадныя ў чэмпіянаце Беларусі па футболе прайшлі матчы 5-га тура.*

Першае паражэнне ў футбольным першынстве Беларусі пацярпеў гродзенскі "Нёман". У гасцях каманда з Гродна прайграла "Мінску" — 0:1.

Астатнія вынікі: "Шахцёр" (Салігорск) — "Дынама" (Мн) — 1:1, БАТЭ (Барысаў) — "Дынама" (Брэст) — 3:2, "Днепр" (Магілёў) — "Белшына" (Бабруйск) — 0:1.

Акрамя таго, учора сустракаліся "Гомель" — "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) і "Нафтан" (Наваполацк) — "Славія" (Мазыр).

**Становішча каманд пасля 5-га тура**

| КАМАНДА | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Нёман | 5 | 3 | 1 | 1 | 8—4 | 10 |
| 2. Шахцёр | 5 | 3 | 1 | 1 | 6—2 | 10 |
| 3. БАТЭ | 5 | 3 | 1 | 1 | 8—5 | 10 |
| 4. Белшына | 5 | 2 | 2 | 1 | 4—4 | 8 |
| 5. Тарпеда-БелАЗ | 4 | 2 | 1 | 1 | 3—3 | 7 |
| 6. Днепр | 5 | 2 | 1 | 2 | 4—3 | 7 |
| 7. Дынама (Мн) | 5 | 1 | 3 | 1 | 6—5 | 6 |
| 8. Мінск | 5 | 1 | 3 | 1 | 2—4 | 6 |
| 9. Гомель | 4 | 1 | 2 | 1 | 4—4 | 5 |
| 10. Нафтан | 4 | 0 | 2 | 2 | 2—5 | 2 |
| 11. Славія | 4 | 0 | 2 | 2 | 1—4 | 2 |
| 12. Дынама (Бр) | 5 | 0 | 1 | 4 | 3—8 | 1 |

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Штраф за пралескі — 5 мільёнаў

У Беларусі ўстаноўлены вялікія штрафы за збор раслін-"чырванакніжнікаў". Збор або знішчэнне занесеных у Чырвоную кнігу раслін караецца штрафам ад 2 да 5 мільёнаў рублёў.

"*Выязджаючы ў лес, гараджане абавязкова хочуць прывезці дадому букецік самых першых вясновых кветак*, — цытуе belta.by галоўнага спецыяліста аддзела біялагічнай разнастайнасці Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі **Ксенію Панцялей**. — *Аднак масавы збор ранніх раслін з пашкоджаннем каранёвай сістэмы падарваў колькасць іх папуляцый, а многія віды апынуліся ў спісе раслін Чырвонай кнігі Беларусі*".

НЕ ТОЛЬКО О ХОККЕЕ

# Азбука Эдуарда Занковца

*Известный белорусский тренер Эдуард ЗАНКОВЕЦ, который в прошлом сезоне работал в омском "Авангарде", рассказывает Народной Воле" о вере в Бога и богатстве, хоккее и семье, журналистах и инфляции.*



Из букв складываются слова. Слова — это наши чувства, эмоции, наша жизнь и мироощущения. Эдуард Занковец рассказывает о своей жизни. По алфавиту...

### А

**"Авангард".** Эта омская команда очень многое значит в моей жизни. Здесь я 18 лет назад играл, последние два сезона работал там тренером. В прошлом году "Авангард" участвовал в финале Кубка Гагарина, такое не забывается. Да, сейчас пришлось уйти из команды, но это, как говорят, обыкновенный творческий процесс. Жизнь ведь не стоит на месте.

### Б

**Богатство** для меня — это духовная составляющая. Отношения со знакомыми, родными и близкими, с коллегами по работе. И в этом плане я не жалуюсь. Есть прекрасная семья, хорошие друзья...

**Беларуская мова.** Я з вялікай павагай стаўлюся да мовы. Яна вельмі прыгожая і мілагучная. Думаю, трэба і спартыўныя спаборніцтвы больш трансліраваць на роднай мове.

### В

**Вокзал** для хоккеиста — это как второй дом, неотъемлемая часть жизни. Раньше приходилось по несколько часов просиживать на чемоданах.

**Выход один на один с вратарем**. Приятное событие для любого игрока, а когда еще забиваешь!.. Хотя я не могу сказать, что был великим буллитмейстером. В этом компоненте у нас можно выделить Олега Антоненко и Дмитрия Мелешко.

### Г

**Глен Хэнлон**. Я благодарен судьбе и Богу, что повстречал этого человека, когда только начинал свою тренерскую карьеру. В этом плане Глен Хэнлон — мой первый учитель. Он дал мне знания, навыки, научил, как нужно относиться к работе и подчиненным. Мне просто повезло.

### Д

**"Динамо".** Когда-то я был игроком этой команды, воспоминания хорошие. Сегодня минское "Динамо" не ругает разве что ленивый, но ругать — проще всего. Я не сторонник такого однобокого взгляда. Потому что очевидно, что клуб стал серьезным проектом. А плюсы и минусы, заслуги и упущения есть, как мне кажется, везде. Но вы посмотрите, как возрос интерес к хоккею среди детей. Разве это плохо? На "Минск-Арену" приходит много болельщиков... Давайте замечать и хорошее.

**Допинг.** Для хоккея допинг скорее исключение, чем правило. Хотя недавно именно на этом "погорел" белорусский хоккеист Сергей Михалев. Думаю, это в первую очередь из-за недостатка знаний. Игроки могут принимать разные пищевые добавки. Сильно они не помогают, а вред может быть большой. Хоккей — это же не индивидуальный вид спорта.

А вообще, допинг — это проблема, с которой надо бороться. Если человек сознательно идет на такой шаг, то наказание должно быть адекватным.

### Е

**Евангелие.** Я верующий человек и стараюсь быть прилежным христианином. Даже соблюдаю пост. Но в моем понимании пост — это не только то, что можно есть человеку, а что нельзя. Пост должен заключаться в образе жизни. Должно быть духовное очищение.

Некоторые тренеры ходят в церковь с командой, но я думаю, что все это — личное. Если кто-то не готов к этому, то идти ради ритуала, наверное, не стоит.

### Ж

**Журналисты.** Часть работы тренера — беседовать с представителями СМИ. У меня с вашим братом всегда хорошие отношения, они просто молодцы.

### З

**Занковец.** Честно говоря, не знаю, откуда пошла наша фамилия, но могу сказать одно: Занковцы — тоже молодцы.

**Зима** в этом году в Беларуси, судя по рассказам, запомнится людям надолго. А я всегда любил зиму. Настоящую — со снегом, морозом, солнцем. Кстати, в Омске зимой мне тоже нравилось, хотя там морозы иногда доходили до 40 градусов.

### И

**Инфляция.** Она, к сожалению, тоже часть нашей жизни, но с этим явлением надо бороться чиновникам, а не тренерам и спортсменам. К нынешним ценам начинаю уже привыкать, но их рост, наверное, более ощутим для людей с маленьким достатком.

**Интеллект**. У обывателя бытует мнение, что многие спортсмены слабы в интеллектуальном плане, но это ошибочное мнение. Сейчас вообще больше возможностей, чтобы заниматься самообразованием. И тот, кто хочет повышать знания, делает это. Кстати, всегда на хоккейной площадке можно определить — думающий тот или иной игрок или нет. Не зря ведь Игоря Ларионова Профессором называли.

### К

**Капитан в команде** — это, можно сказать, полкоманды. Человек, от которого зависит, как коллектив поведет себя в критические моменты. Это лидер среди игроков.

Мое **кредо**: поступай с людьми так, как хотел бы, чтобы они поступали с тобой.

### Л

**Любовь**. Хорошо, когда она движет твоей жизнью. Кстати, супруга Светлана — моя первая любовь, и она же — последняя.

### М

**Машина.** Первый автомобиль "Фольксваген" я купил, когда играл в Германии. А до этого практиковался на "Жигулях" отца. Сейчас у меня "Мерседес". Но я не слишком большой фанат престижных машин. Для меня главное, чтобы автомобиль был удобным и на ходу.

**Мода.** Я отношусь к той категории людей, кто считает, что человек должен быть просто опрятным. В Милан одеваться не летаю. Скажу честно, даже жену прошу помочь мне с выбором одежды. Но это должно быть очень быстро. Пришли в магазин, купили, ушли.

### Н

**Новшества.** Нужно шагать в ногу со временем, чтобы быть успешным.

### П

**Политика**. Я просматриваю какие-то политические статьи, новости, но из-за занятости не уделяю этому повышенного внимания. Мои приоритеты в данный момент не связаны с политикой.

**Победа.** Думаю, моя самая знаменательная победа еще впереди.

### Р

**Расцвет белорусского хоккея**. Мне кажется, что расцвет пришелся на тот период, когда сборную Беларуси тренировали североамериканцы Глен Хэнлон и Курт Фрэйзер. Тогда был рост и внутреннего чемпионата, и сборной... Индикатор развития хоккея — это результат выступления юношеских и молодежных сборных.

### С

**Семья.** У нас уже взрослый сын Владислав, в мае ему 22 года будет. Дочери 2,5 годика.

### Т

**Типаж хоккеиста.** Любой игрок должен приносить пользу команде, но в то же время определенная эгоистичность возможна, если использовать этот момент с умом. Так что важны и те хоккеисты, которые таскают рояль, и индивидуальности. Но все должны делать одно дело.

**Труд** — это то, что действительно отличает успешных людей от просто талантливых.

### У

**Уникум** — это уже гениальный человек. Грецки, Лемье, Малкин, Кросби... Уникальные хоккеисты!

### Ф

**Футбол**. Мне вообще-то больше хоккей нравится, но и футбол могу посмотреть, если проходят матчи высокого уровня. Чемпионат мира, Лига чемпионов... Особенно когда БАТЭ играет в Лиге чемпионов. Но, признаюсь честно, игры чемпионата Беларуси не смотрю.

### Х

**Характер**. Я себя отношу к людям со спокойным характером. А вообще, мне нравятся честность и порядочность.

### Ц

**Цыплаков**. Володя Цыплаков (*на днях назначен спортивным директором минского "Динамо*". — **Авт.**) — мой хороший товарищ и один из лучших игроков в истории Беларуси. Он великолепно знает, какие профессиональные требования предъявлять каждому игроку. Это очень авторитетный в хоккейном мире человек.

### Ч

**Чемпионат Беларуси по хоккею** — это наше преимущество перед странами бывшего Союза, которое мы сами создали, но не смогли воспользоваться сполна. По разным причинам уровень национального чемпионата падает.

### Ш

**Шахматы**. Когда-то играл, но сейчас за доску уже давно не садился. А раньше, когда были на сборах, в шахматы играли и тот же Цыплаков, и Саша Андриевский.

### Э

**Эдуард**. Имя мне дал отец — это я знаю точно. А почему? Даже и не знаю. Понравилось, наверное.

### Ю

**Южный берег Крыма**. В Крыму мы были на сборах с молодежной командой, но сейчас, честно говоря, мне больше по душе не слишком жаркий климат. В Паланге нравится отдыхать.

### Я

Хорошо бы "**я**" заменить в нашей жизни на "мы". Тогда больше шансов на успех...

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото автора.**

КРЫЖАВАНКА

# Красавік сініць і дзьме

**Па гарызанталі:** 1."Тут ... цвітуць цёмна-сінія,\\Ветрык дыхае пахам вясны" — з верша "Красавік", які Н.Арсеннева прысвяціла М.Гарэцкаму. Сёлета — 110 год з дня нараджэння паэткі. 4."І над усім — звініць ..." — з верша "Ізноў заплакалі снягі" А.Грачанікава. 7.Красавік сініць і дзьме, бабам цяпло нясе, а ... пазірае ды галавой ківае (прык.). 9."На галінцы ціхім посвістам\\Шпак вітае ... сонейка" — з верша "Красавік ідзе пралескамі" Ст.Шушкевіча. 10.Калі ў апошні дзень красавіка сонца ўзыдзе ... — будзе сухое лета, а калі праз хмары - дажджлівае (прыкм.). 11."Я ведаў, што ты — ... ,\\Ты — дружба і радасць" — з верша "Паэзія" М.Танка. 14.Мокры красавік — добрая ... (прык.). 15.Велікодны пірог цыліндрычнай формы. 16."На ўзлеску белыя, як ... ,\\Пралескі расцвілі" — з верша "Прадвесне" Г.Бураўкіна. 17."Са стронцыем сёння паснедаў,\\З плутоніем, мусіць, абедаў\\І з цэзіем вымыў свой ..." — з верша "Як многа чарнобыльскі ўдар" Я.Мальца. 20.Тры дажджы ў красавіку ды ... у траўні — тысячы дажджоў каштуюць (прык.). 21.Час уборкі збожжавых культур. 26."Яны стаяць адзіным фронтам —\\... , стронцый і клады" — з верша "Гарызонт" В.Гардзея. 28.Тое, чым абмахваюцца ў духату. 29.З бяроз цячэ многа соку — да ... мокрага (прык.). 30.Яйка, якое пасля гульні ў біткі заставалася цэлым. 31.Адрэзаны кусок хлеба. 32."Шугне вырай галасісты,\\... заб'юць у званы" — з верша "Вясна" Я.Коласа.

**Па вертыкалі:** 2.Дзіцяня авечкі. 3.Калючая частка абароны і нападу ў пчол, ядавітых змей. 5.Калі будзе ... — хопіць коням аўса (прык.). 6.Красавік ваду падбірае, ... пускае (прык.). 7."Вясна гаспадарыць,\\Як рупная ..." — з верша "Вясна" А.Дзяружынскага. 8.Цераз сілу і ... не цягне (прык.). 9.Ступень, узровень кваліфікацыі ў прафесіі, спорце. 12.Тое, што і філолаг. 13."Таму не магу я ніколі\\Чуць без хвалявання\\На золаку ранніім\\Вясновай парой ..." — з верша "Начная зязюленька" М.Танка. 18."У яркім сонцы і блакіце\\Ідзе палямі ..." — з верша "Вясна ў вёсцы" А.Нафрановіча. 19."Зеленее ... спакваля,\\Пахнучы самой зямлёй адталай" — з верша "Першая адталая зямля" А.Лойкі. 22."... у бубны гулкія ўдарыў,\\Цішыню густую пакрышыў" — з верша "Красавіцкая навальніца" П.Панчанкі. 23.У красавіку дождж праходзіць, ... грэе — тады ўсялякі не збяднее (прык.). 24.Тое, што і пласцінка. 25.Красавік чорны ў полі, а ў бары — ... (прык.). 27."..., ..., небасхіл\\Хустка васільковая!\\Пакацілася клубком\\Сонейка вясновае" — з верша "Вясна" Л.Полазавай.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*



**Адказы:**

**Па гарызанталі:** 1.Фіялка. 4.Жаўрук. 7.Мужык. 9.Рана. 10.Ясна. 11.Пацалунак. 14.Ралля. 15.Куліч. 16.Снег. 17.Твар. 20.Адзін. 21.Жніва. 26.Чарнобыль. 28.Веер. 29.Лета. 30."Мацак". 31.Крышан. 32.Камары.

**Па вертыкалі:** 2.Ягня. 3.Джала. 5.Раса. 6.Красачкі. 7.Маці. 8.Конь. 9.Разрад. 12.Славеснік. 13.Кукаванне. 18.Красавік. 19.Траўка. 22.Гром. 23.Сонца. 24.Дыск. 25.Белы. 27.Неба.

НУ І НУ!

## Здаў кватэру... разам з маці

На што толькі не ідуць людзі, якія працаваць не хочуць, а вось піць-гуляць і ні ў чым сабе не адмаўляць любяць!

Гаспадыня адной з рэчыцкіх кватэр стала прывыкаць да таго, што, прыйшоўшы з працы, застае дома незнаёмых людзей. Заўсёды розных, у асноўным прыстойных з выгляду. І ўсе сцвярджаюць, што тут жывуць. Прычынай загадкавай з'явы аказаўся 30-гадовы сын гаспадыні.

Вызваліўшыся з калоніі, дзе сядзеў за крадзяжы і махлярства, малады чалавек знайшоў іншы спосаб заробку. Ён пачаў здаваць матчына жыллё. Кліентаў знаходзіў па аб'явах ці па знаёмстве. Пакуль маці на працы, прыводзіў іх дадому і паказваў кватэру. Тлумачыў, што маці жыве ў вёсцы. Браў перадаплату. І так не адзін раз.

Днямі гаспадыня кватэры, прыйшоўшы з працы і зноў выявіўшы чужыя пажыткі, патэлефанавала ў міліцыю. Аператыўнікі знайшлі "рыэлтара" ў Гомелі — ён зняў нумар у гатэлі і траціў па рэстаранах атрыманыя 7 мільёнаў рублёў. На момант затрымання пры ім заставалася ўсяго каля 800 тысяч. Свае дзеянні ён патлумачыў проста: "Хацеў пагуляць".



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл. (017) 3286871.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.04.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27570 экз. Заказ №1540.